Кошт паштовай перасылкі аплачана агулам.

Цана асобнага нумару 30.000 м. п.



# ЗМАГАНЬНЕ

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: Вільня, Віленская вул. 12, п. 6. (Wileńska 12 m. 6).
Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 г. штодня апрача сьвяточных дзён. Адміністрацыя ад 9 да 3 г.

Выходзіць тры разы у тыдзень.
Падпіска на адзін месяц з дастаўкай да хаты 250000 м.п.
Для заграніцы удвая даражэй.

Няпрынятыя у друк рукапісы назад не вяртаюцца.
Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.
Цана абвестак: перад тэкстам 45.000 мк., сярод тэксту 35.000 м. і на 4 стр. 30.000 м., за радок пэтыту у 1 шп.

№ 9. Вільня, Пятніца, 23-га лістапада 1923 г. Год I.

## „Малы парлямант“.

Адзін з беларускіх паслоў у прыватнай гутарцы аб Беларускім Пасольскім Клюбе вельмі ўдачна назваў яго нашым *„малым парлямантам“*.

Запраўды, гэтае беларускае выбарнае прадстаўніцтва, якому Заходняя Беларусь даручыла абарону сваіх правоў і інтарэсаў, мае характар іменна малога беларускага парляманту: тут вырашаюцца ўсе палітычныя выступленьні беларусаў у Сойме Польскае Рэспублікі, тут выпрацовываюцца законадаўчыя праекты, якія маняцца падаваць на разгляд Сойму нашы выбранцы, тут намячаецца пазыцыя беларускіх паслоў у справе галасаваньня над новымі дзяржаўнымі законамі, падаванымі ў Сойм урадам і другімі соймавымі клюбамі. І тут, урэшце, выпрацовываецца тая *лінія пастунаньня*, якая трымае ў грамадзе прадстаўнікоў розных беларускіх палітычных і сацыяльных кірункаў, істнуючых у нашым Пасольскім Клюбе.

Зусім лёгка зразумець, што кожын ці то палітычны, ці то сацыяльны кірунак, прадстаўлены ў Беларускім Пасольскім Клюбе, стараецца павясьці нашу пасольскую працу па тэй дарозе, якая гэтаму кірунку здаецца найлепшай, найбольш правільнай. І пры разважаньнях аб тым ці іншым кроку Клюбу атрымлівають перавагу довады прадстаўнікоў тэй партыйнай групіроўкі, якая лепш падгатавалася да спорукі, якая больш папрацавала, больш падумала, больш здалела сабраць пераконываючых матар'ялаў, — урэшце, якая лепш адбівае пагляды і дамаганьні шырокіх народных масаў. Скажам караце́й: кіраўнічая роля ў працы Беларускага Пасольскага Клюбу прыналежыць тэй групе паслоў, якая *лепш арганізавана*.

Прыглядаючыся да ўсіх беларускіх партыйных груп, якія маюць сваё прадстаўніцтва ў Сойме і аб'ядналіся ў адзіны Беларускі Клюб згодна з ясна выражанай на перадвыбарных зьездах воляй беларускіх выбаршчыкаў, мы бачым, што *ніводная з іх ня мае моцнае, стройнае арганізацыі* ў Клюбе. З боку *нацыянальнага* гэта мо' і карысна; але з боку *сацыяльнага* карысьць ад такое невыкрысталізаванасьці выклікае паважныя сумляваньні. І вось дзеля чаго.

Выбары ў Сойм адбываліся на грунце адзінае беларускае кампраміснае плятформы, якая павінна была аб'яднаць на галоўных лёзунгах—нацыянальных, палітычных і сацыяльных—усе беларускія сацыялістычныя і дэмакратычныя кірункі. Ясна, што, раз тут быў кампраміс, дык у выбарную плятформу, а пасьля і ў плятформу Клюбу магло ўвайсьці толькі тое, што зьяўляецца *супольным* у аб'яднаўшыхся груп. Але кожная група, залежна ад сваей партыйнай праграмы і свайго сьветапагляду, можа падыходзіць з розных бакоў да правядзеньня ў жыцьцё нават супольных выбарных лёзунгаў, ня кажучы ўжо аб такіх заданьнях, якія *не зьяўляюцца супольнымі* для ўсіх сябраў Клюбу. І пры апрацоўцы таго ці іншага праекту закона, пры падгатоўцы таго ці іншага клюбовага выступленьня кожная група *павінна* перш у сябе, асобна ад другіх, разважыць разгляданае пытаньне і даць разьвязцы яго такую форму, якая найбольш адпавядае сьветапагляду групы і яе праграме.

Дзеля гэтага патрэбна больш ясная крысталізацыя партыйных групіровак у Беларускім Пасольскім Клюбе, а перад усім выдзяленьне і моцнае арганізацыйнае аб'яднаньне прадстаўнікоў таго кірунку, які ад пачатку беларускага адраджэнскага руху паклаў для беларускае справы найбольш працы і ахвяр, дый фактычна вызначаў яму дарогу: мы маем на думцы *беларускіх сацыялістычных паслоў*. Як некалі ў Вялікай Радзе Беларускае Народнае Рэспублікі ў Менску кіраўнічую ролю ігралі радныя сацыялісты, вынесшыя на сваіх плячох барацьбу за абвешчаньне незалежнасьці Беларусі актам 25 марца 1918 году,—так і ў нашым „малым парляманце“, у нашым Пасольскім Клюбе ў Варшаўскім Сойме беларускія сацыялісты павінны выразна выявіць сваё аблічча—у штодзенным змаганьні за права на людзкае жыцьцё беларускага насяленьня ў межах Польшчы.

Мы думаем, што *працэс крысталізацыі* істнуючых у Беларускім Пасольскім Клюбе палітычных і сацыяльных кірункаў *будзе вельмі карысным перш за ўсё для самога Клюбу і яго дзейнасьці*: ён ажывіць унутраную работу Клюбу, ён—на грунце неабходнае канкурэнцыі—прымусіць нявыразныя і бязьдзейныя адзінкі сярод нашых паслоў „самавызначыцца“ і прыняць больш чыннае ўчасьце ў агульнай працы.

У Беларускім Пасольскім Клюбе аб гэтым ужо пачалі паважна думаць і гаварыць.

*Няхай-жа нашы паслы-сацыялісты зробяць тут першы добры пачатак!*

## Сялянскі інтэрнацыянал.

Нядаўна ў Маскве адбылася міжнародная канфэрэнцыя сялян, якая, бязумоўна, мела вялікае значэньне і павінна быць залічана да найвялікшых здарэньняў нашага часу. У чым-жа выражаецца значэньне гэтай канфэрэнцыі? Вось на гэтае пытаньне мы і пастараемся даць кароткі адказ.

Як ведама, да гэтага часу добра зарганізаванай зьяўлялася толькі работніцкая кляса. Арганізацыя работніцкай клясы распачалася ўжо даўно і шмат гадоў таму ўжо было зроблена арганізацыйнае аб'яднаньне работнікаў усіх краёў, т. зв. работніцкі Інтэрнацыянал. Але сялянства пачало арганізавацца толькі нядаўна, гэтыя арганізацыі былі слабыя, сяляне паасобных краін ня мелі паміж сабою арганізацыйнай сувязі, і ў большасьці выпадкаў злучаліся з буржуазнымі і абшарніцкімі групамі, выступаючы проціў работнікаў. Прыкладам гэтага можа служыць цяперашні саюз польскай сялянскай партыі „Пяста“ з „Хьенаю“—саюзам польскіх абшарнікаў і капіталістаў.

Праўда, некаторыя і работніцкія партыі неахвотна йшлі на супрацоўніцтва з сялянствам, бачучы ў ім клясу дробна-буржуазную і лічучы, што інтарэсы селяніна, які збывае ў горад прадукты сельскай гаспадаркі і набывае ў горадзе прадукты фабрычнай прамысловасьці, ня маюць нічога супольнага з інтарэсамі гарадзкога работніка, а часта нават супярэчны.

Аб тым, што гэтай супярэчнасьці ў запраўднасьці няма і як гэтаму даць рады, мы пагаворым другім разам; цяпер-жа сьцьвердзім, што за апошнія часы ўсё больш і больш расьце сьвядомасьць як сярод работнікаў так і сярод сялян, што гэтыя абедзьве працоўныя клясы маюць аднаго супольнага ворага—капіталізм, які вызыскуе іх працу і істнуе толькі дзякуючы гэтаму вызыску. У капіталістычных дзяржавах выяўляецца перамена ў строях сялянскіх масаў і выражэньнем гэтага заяўляецца першая сялянская міжнародная канфэрэнцыя.

Найбольш сьвядомая, найлепшая частка сялянскай арміі сьпяшыць з дапамогай рэвалюцыйнаму пралетарыяту, парываючы з буржуазным лягерам, і абвяшчае вайну капіталізму ў імя жыцьцёвых інтарэсаў шырокіх сялянскіх масаў. Трэба спадзявацца, што за гэтай, найбольш сьвядомай часткай, пойдзе і рэшта сялян, бо так заўсёды было, што выразьнікам інтарэсаў прыгнечаных клясаў, зьяўлялася перш невялічкая група, якая вяла за сабою ўсю клясу.

Аб'яднаньне сялян і работнікаў адбываецца не ў імя якіх-небудзь ідэальных лёзунгаў, а ў імя канкрэтных жыцьцёвых інтарэсаў тых і другіх; да гэтага прывяло перакананьне, што толькі супольная барацьба проціў абшарнікаў і капіталістаў, вызваліць абедзьве працоўныя клясы.

У запраўднасьці сялянін таксама вызыскуецца ўладаючымі клясамі, як і работнік, а часта яшчэ шмат больш, дзеля таго, што ён больш цёмны і дрэнна арганізаваны і толькі ў работніку дзеля гэтага селянін знойдзе вернага саюзьніка. Што няма запраўдных перашкодаў дзеля гэтага аб'яднаньня паміж працоўнымі гарадоў і вёсак можа яскрава сьведчыць той факт, што гэтае аб'яднаньне істнуе паміж эксплёататарамі гарадоў і вёсак: паміж абшарнікамі і прамысловай і гандлёвай буржуазіяй гарадоў, ня гледзячы на пэўную супярэчнасьць іх інтарэсаў. Вось-жа гэтая салідарнасьць эксплёататараў павінна выклікаць такую-ж салідарнасьць і аб'яднаньне і паміж вызыскуемых.

Адбыўшаяся ў Маскве першая міжнародная канфэрэнцыя сялян і паставіла сабе мэтай аб'яднаньне як сялян паасобных краёў, так і цеснае супрацоўніцтва сялянства з работніцкай клясай. Канфэрэнцыя наўперад пастанавіла заданьнем адшуканьне палітычнай і гаспадарчай плятформы для саюзу работнікаў і сялян.

Разглядаючы справу вайны і міру, канфэрэнцыя зрабіла вывад, што далейшае істнаваньне капіталістычнага ладу павінна выклікаць новы пэрыяд уціску сялянскіх масаў. Таксама сьцьверджана, што ў шмат якіх краёх буржуазія ўсе цяжары сусьветнай вайны ўскладае адналькова як на работнікаў, так і на сялян. Дзеецца гэта ў розных формах: у форме падаткаў, прымусовых данінаў, спадку валюты, інфляцыі банкнотаў і г. д. Дэлегаты прышлі да пераканаўня, што вінавайцамі дарагоўлі, якая так моцна адчуваецца работнікамі і сялянамі, зьяўляецца выключна буржуазія, якая ня хоча нясьці найменшых ахвяраў, каб ратаваць сваю дзяржаву.

Далей сьцьверджана, што ў капіталістычных краёх заўважаецца ўсё большы ўпадак прадукцыі і што буржуазныя гаспадарствы зусім ня дбаюць аб паляпшэньні земляробства, якое знаходзіцца ў паваенныя часы ў дужа дрэнным становішчы. Дзеля гэтага канфэрэнцыя лічылася ня толькі з магчымасьцю супольнай барацьбы сялян і работнікаў проціў абшарнікаў і капіталістаў, але з магчымасьцю згоднага супрацоўніцтва гэтых клясаў на гаспадарчым грунце. Пастаноўлена заснаваць высшы сельска-гаспадарчы інстытут з мэтай павялічаньня сел.-гаспад. прадукцыі.

Сьцьверджана таксама, што адна сялянская кляса, як і адна работніцкая, ня зможа на ўласную руку вызваліцца з-пад ярма, прыкладам чаго служыць Баўгарыя, дзе сялянскі ўрад Стамбалійскага ня мог утрымацца ў улады. А гэта яшчэ адзін лішні доказ патрэбнасьці аб'яднаньня. Бліжэйшым палітычным заданьнем сучаснага мамэнту канфэрэнцыя прызнала змаганьне і ўтварэньне работніцка-сялянскага ўраду, а лёзунгам канфэрэнцыі быў: „Работнікі і сяляне ўсіх краёў злучайцеся!“

У канфэрэнцыі бралі ўчасьце 122 дэлегаты, якія прадстаўлялі 40 народаў; сярод іх знаходзіліся прадстаўнікі розных опозыцыйных сялянскіх партыяў і саюзаў, і дзеля гэтага рэзалюцыі канфэрэнцыі маюць вялізарнае значэньне ня толькі для сялянства, але наагул для ўсіх працоўных.

Палажэньне нашага беларускага сялянства Заходняй Беларусі дужа цяжкае, шмат цяжэйшае, як у іншых краёх. Зруйнаваньне сялянскіх гаспадарак вайной, адсутнасьць дапамогі на адбудову, запрапашчэньне зямельнай рэформы, дзякуючы саюзу сялянскай пар-

тыі „Пяста“ з абшарнікамі і капіталістамі, страшэнная дарагоўля, якая пры адноснай дзешавізьне сялянска-гаспадарчых прадуктаў пазбаўляе магчымасьці ўласнымі сіламі паправіць сваю разбураную гаспадарку, страшэнная цемната, пануючая на вёсцы, дзякуючы адсутнасьці родных школаў і культурных арганізацыяў,— усё гэта вялізарным цяжарам душыць нашага селяніна. Трэба ўласнымі сіламі будаваць сваё жыцьцё, а дзеля гэтага патрэбна моцная сялянская арганізацыя.

**Кумельган.**

## Пасол Крулікоускі аб Беларускім і Украінскім пасольскіх клюбах.

Пасол Крулікоўскі ў аднаднёўцы „Z Frontu Robotniczego“ зьмяшчае артыкул „Час мець выразныя прынцыпы“, у якім разглядае становішча беларускіх і украінскіх паслоў у Польскім Сойме.

Застанавіўшыся над гісторыяй утварэньня блёку нацыянальных меншасьцяў, які ў часе выбараў у Сойм і Сэнат аб'яднаў ўсе нацыянальныя меншасьці Польшчы бяз розьніцы клясовага падзелу, у імя „абароны перад нацыянальным уціскам, перад дэнацыяналізацыяй, адбіраньнём зямлі і пазбаўленьмем правоў“,— Крулікоўскі зазначае, што і ў Сойме, дзе заместа адзінага блёку ўтварыліся нацыянальныя клюбы украінцаў, беларусаў, жыдоў і г. д., праца гэтых клюбаў ідзе толькі ў кірунку змаганьня за нацыянальныя правы.

„Аднак жыцьцё,—кажа Крулікоўскі — мае свае цьвёрдыя законы, якіх ніхто абмінуць або пераскочыць ня здолее. Сойм ёсьць арэнай, на якой кіпіць заядлая барацьба партыяў, прадстаўляючых азначаныя клясовыя інтарэсы. На кожным соймавым паседжаньні абгаварываюцца і вырашаюцца справы, датычачыя інтарэсаў розных клясаў і групаў. І ня толькі кожны клюб, а нават і кожны пасол павінен мець выразныя адносіны да інтарэсаў змагаючыхся групаў і клясаў, павінен мець праграму, баронячую інтарэсы капіталістаў і абшарнікаў, ці інтарэсы работнікаў і бедных сялян“.

Адным словам у Сойме мала быць украінцам, беларусам і г. д., але трэба йшчэ належаць да пэўнай партыі, трэба мець добрую ці дрэнную сацыяльную праграму. Трэба гэтую праграму бараніць усімі сіламі і здабываць для яе масы.

„Тымчасам—піша далей Крулікоўскі—нацыянальны пасольскі клюб украінскі і беларускі ніякай сацыяльнай праграмы ня маюць і мець ня могуць. Памсьцілася гэта на іх у фатальны спосаб, штодзень мсьціцца і будзе мсьціцца далей. Але ня толькі гэтае. Практыка паказвае, што, ня маючы выразнай сацыяльнай праграмы ня можна таксама вясьці дзейнае пасьледавальнае барацьбы проціў нацыянальнага ўціску ўласнага народу. Нават тады, калі шукаюць ўгоды з гнябіцелямі ўласнага народу трэба мець сацыяльную праграму, якой будзе тады праграма абшарніцка-капіталістычная. Тады-ж, калі хочуць запраўды змагацца, каб скінуць ярмо нацыянальнай няволі, трэба мець праграму работнікаў і бедных сялян з усімі вынікаючымі з гэтага пасьледствамі. Трэцяга выхаду няма.

Тымчасам украінскія і беларускія паслы ня могуць здабыцца ні на адно ні на другое. Дзеля гэтага хоць ёсьць іх у Сойме 31, ня маюць у ім ніякай сілы, не прадстаўляючы ніякай глыбокай думкі ні палітычнай ні сацыяльнай. Галасуюць, як Бог пашле, ад выпадку да выпадку, найчасьцей масова ўхіляючыся ад галасаваньня. Распачалі сваю дзейнасьць у Сойме ад таго, што падтрымалі сваімі галасамі габінэт Сікорскага, габінэт сацыяльна ўмяркавана-рэакцыйны; палітычна паліцэйска-рэпрэсыйны, у адносінах да украінскага і беларускага народу — брутальна і цынічна топчучы іх правы ўжо ня толькі да незалежнасьці і аб'яднаньня, але нават адносна да нацыянальнай школы і адміністрацыі, пазбаўляючы украінскае і беларускае сялянства зямлі сыстэмай прускай калянізацыі. І гэткі ўрад атрымаў іх падтрыманьне! Гэта была дрэнная спроба угоды, але як-жа недальнавіднымі аказаліся украінскія і беларускія паслы!“

„Зьяўляецца зусім незразумелым, як могуць гэткую беспраграмовую палітыку ўжо паўгода весьці тыя паслы з абодвых клюбаў, якія лічаць сябе сацыялістамі і якія з найвялікшай пагардай і крытыцызмам адносяцца да угадовай палітыкі паслоў з клюбу P.P.S. Ці-ж запраўды да гэтуль не разумеюць, што іхняя дасюляшняя роля ў Сойме не дае ім ніякага права вучыць P.P.S. аб рэвалюцыйных і сацыяльных абавязках, калі самі не патрафілі дагэтуль выпаўніць гэтых абавязкаў.

Ужо час, вялікі час, каб сацыялісты, якія знаходзяцца ў гэтых клюбах, пачалі на Соймавым і пазасоймавым грунце весьці дзейнасьць, як рэвалюцыйныя сацыялісты, зрываючы клюбовую сувязь з пасламі, з якімі іх лучыць толькі супольная нацыянальная прыналежнасьць. Час аб'яднацца з тымі, якія на сваім сьцягу напісалі, сярод раду сацыяльных лёзунгаў, таксама лёзунг самаазначэньня народаў без усялякіх агаворак і якія арганізуюць масы да змаганьня аб рэалізацыі усіх сваіх лёзунгаў.

Час мець выразна азначаныя прынцыпы!“

Шмат горкай праўды піша пасол Крулікоўскі аб дзейнасьці нашых паслоў. Шмат памылак было зроблена імі ў Сойме, якія ў значнай меры тлумачацца тою вераю ў польскую дэмакратыю і сацыялістаў, якая, на жаль, прынясла толькі расчараваньне. Аб гэтым мы ў свой час пісалі ў нашай прэсе, гэта зразумелі і нашыя паслы, галасуючы проціў габінэту Сікорскага. Але памылкі павінны вучыць, і з іх трэба рабіць адпаведныя вывады, выпрацаваўшы ясную як нацыянальную, так і сацыяльную праграму, якую няўхільна праводзіць ува ўсей сваей дзейнасьці. **Ля.**

# Да усіх грамадзян беларусаў.

Сусьветная вайна, агнявым полымем абняўшая беларускі край, памножыла нябывала лік беларускіх сірот і бяздомных.

Беларускае Грамадзянства ў Вільні 1915 г. заснавала Т-ва Помачы Пацярпеўшым ад вайны дзеля аблягчэньня долі гэтых няшчасных.

Падчас немцаў у нашым краі Бел. Т-ва Помачы арганізавала ў Вільні для беларускіх дзяцей-сірот прытулак, для ўзрослых бяздомных беларусаў закладала страўні і агулам, як магло, апекавалася пацярпеўшымі ад вайны.

Пасьля немцаў, падчас войнаў у нас польска-расейскіх Бел. Т-ва Помачы не пакідала сваей дабрадзейнай працы.

У цяперашні час Т-ва гэтае ў Вільні маець адзін прытулак, у якім гадуе 100 беларускіх сірот. У гэтай цяжкой працы Т-ву аказваў вялікую падмогу як харчамі, такжа вопраткай і абуткам Амэрыканскі Камітэт Помачы для дзяцей. Памагаў ня мала грашмі ў гэтай справе і Полькі Урад, які на жаль, цяпер, на беларускіх сірот даець так мала, што блізу не даець нічога.

Вотжа цяпер, калі даражыня шалееть страшэнна, калі ніадкуль няма дапамогі і, калі далей трэба карміць хоць гэную сотню сірот, што ёсьць у беларускім прытулку, Камітэт Т-ва гэтым зварачваецца да Беларускага Грамадзянства, як гэнага, што цяпер у далёкай Амэрыцы і якому Камітэт за ягоныя ўжо прысланы ахвяры шчыра дзякуе, а такжа і да беларускага грамадзянства краёвага, асабліва да беларускага сялянства, — з просьбай злажыць ахвяру на сірот у беларускім прытулку ў Вільні.

Няхай кожны беларус, што можа, дасьць на гэту мэту сам, падахвоціць даць суседа ці знаёмага і няхай сабранае прышле, ці прывязе ў Вільню.

Ахвярай можа быць: жыта, мука, буракі, цыбуля, гарох, сланіна, бульба, грошы, палатно, вопратка, абутак.

Ахвяры можна перасылаць:
Wilno, Ostrobramska 9, пад расьпіску загадчыцы прытулку п. Г. Кавэрды і скарбніка К-ту п. В. Тарашкевічыхі.

**Беларускі Камітэт Т-ва Помачы пацярпеўшым ад вайны.**

## Палітычныя падзеі.

### ПОЛЬШЧА.

З прычыны яшчэ нячуванай дарагоўлі і вялізарнага, дзеля гэтага, запатрабаваньня папяровых грошаў адчуваецца няхватка грашовых знакаў, дзеля чаго ў суботу P.K.O. (Polska Kasa Oszczędnościowa) і P.K.K.P. (Polska Kraj. Kasa Pozycz.) стрымалі выплату чэкаў з прычыны адсутнасьці гатоўкі ў касах. Дзяржаўная друкарня ня можа выдрукаваць патрэбнай сумы грошаў і ёй у гэтым ужо дапамагаюць тры прыватныя друкарні, дзеля чаго запатрэбаваньні грашовага рынку задаволены. Як паведамляе „Robotnik„, P.K.O. у працягу аднаго дня выпусьціла з сваіх касаў 80 мільярдаў марак. Але гэта прычынілася да новага гвалтоўнага спадку маркі і цана на заграпічныя валюты расьце з кожным днём, выклікаючы новую хвалю дараголі.

Нейкае зачараванае кола.

Абшарнікі запрапанавалі ўраду заплаціць падатак ад маемасьці ў натуры—збожжам, якое ўрад павінен прадаць заграніцу... Гэтаму пазайздравалі і прамыслоўцы, якія з свайго боку прапануюць ураду заместа падаткаў 2 мільёны мэтраў матэрыі на патрэбы арміі, пад варункам, што ўрад і на далей будзе даваць прамыслоўцам крэдыт з дзяржаўнага скарбу. Як, бачым, на гэтым прамыслоўцы хочуць зрабіць добры інтэрас: па высокай цане пазбыцца заляжаўшагася тавару, выклікаўшы гэтым новую звышку цэнаў, а на атрыманыя крэдыты, якія заплацяць тады, калі марка яшчэ больш страціць на вартасьці, зноў будуць весьці валютную спэкуляцыю.

Сьледства ў справе кракаўскіх выпадкаў ідзе прысьпешаным тэмпам. Дагэтуль арыштавана 20 асобаў, падазроных у падбураньні і чынным учасьці ў баёх. Арыштавана таксама шмат афіцэраў з 16-га палку пяхоты і палку стральцоў.

Канфіскаты работніцкіх часопісяў ня спыняюцца. Канфіскавана таксама адозва „Саюзу пралетарыяту гарадоў і вёсак“. У сувязі з гэтай канфіскатай адбыліся арышты ў Донброве Гурнічай.

### Маніфэст камуністычнай партыі Польшчы.

Камуністычная партыя Польшчы разаслала на гэтых днях да газэт сваю адозву-маніфэст, ў якой зьвяртаецца да ўсіх работнікаў, сялян, да працуючай інтэлігенцыі, да народных масаў украінскіх, беларускіх, жыдоўскіх, нямецкіх і літоўскіх.

### Раскол у украінскім Клюбе.

У украінскім пасольскім клюбе ўжо даўно былі непаразуменьні паміж нацыяналістычнай большасьцю клюба з п. Підгірскім на чале і сацыялістычнай меншасьцю. Цяпер сем паслоў з п. Прыступай на чале вышлі з агульна-украінскага клюбу, творачы ўласны сацыялістычны клюб.

### НЯМЕЧЧЫНА.

Вядомы сацыялістычны дзеяч Адольф Браун, які аб'ехаў цэнтральную Нямеччыну, сьцьвярджае немагчымае палажэньне работніцкай клясы ў Нямеччыне. Спадак валюты балюча адчуваецца толькі працоўнымі, бо капіталісты, скупоўваючы даляры і інш., паўнацэнную валюту, могуць набываць усё, што хочуць у той час, калі людзі працы ўсё менш могуць купіць за маркі, якія трацяць на вартасьці кожную гадзіну. Работнік у Нямеччыне зарабляе столькі, што ледзьве хапае купіць дзьве булачкі хлеба і 1 фунт маргарыну. Большасьць работнікаў даўно ўжо ня есьць мяса. Плата ніяк ня пасьпявае за ўзростам цэнаў, якія шмат вышэй, чым перад вайною. Безрабоцьце расьце. У Рурскім басэйне ёсьць 2 з гакам мільёны безработных, а ўрэшце Нямеччыны 1—1½ мільёны. Мільёны работнікаў працуюць толькі 2—3 дні ў тыдзень. Дапамогі для безработных зусім нічога ня значаць у параўнаньні да дарагоўлі прадуктаў першай патрэбы.

Браунталь так апісавае палажэньне ў Нямеччыне:

„Край апанавалі кулямёты і ручныя гранаты, а цела і душу работніка гаспадарчая нэндза так здушыла і зламала, што ён стаўся нyздольны да змаганьня і прымушаны пераносіць гэтую гаспадарку, сьпіхаючую Нямеччыну ў усё глыбейшы хаос. Урад Рэспублікі і рэйхсвэр ідуць рука аб руку з здрадніцкім „Hakenkreuz“-ам (аружныя фашыстаўскія банды). Праследуюцца толькі рэспубліканцы. Пасьля заняцьця сацыялістычнай Саксоніі праз 70 тысяч людзей з рэйхсвэру, які прысвоіў сабе ўсю выканаўчую ўладу, распусьцілі рэспубліканскія аддзелы, а шмат работнікаў пасадзілі ў вастрог, занята таксама і сацыялістычная Тюрынгія. Далей аўтар апісвае дзікія зьдзекі над сацыялістамі, атаку на высшую сацыялістычную школу з кулямётамі і гранатамі і поўную свабоду для фашыстаўскіх аддзелаў, якія апрача поўнага ўтрыманьня дастаюць яшчэ па 120 мільярдаў у дзень. Вялікія прамыслоўцы не шкадуюць выдаткаў на фашыстаў, якія пакрываюць нячуваным вызыскам працоўных і валютнай спэкуляцыяй. А ўрад Штрэзэмана прыхільна талеруе ўсе гэтыя бясчыннасьці.

Адбылося паседжаньне нямецкага парляманту. На парадку дня дыскусія над даверыем ураду. Сацыял-дэмакраты выказаліся проціў ураду Штрэзэмана, закідаючы яму слабасьць адносна Бавары і рэпрэсіі адносна да Саксоніі і Тюрынгіі. Нацыяналісты выказаліся таксама проціў ураду. Пасьля пратэсту камуністаў проціў таго, што будынак парлямэнту акружаны паліцыяй падняўся вялізарны шум, і маршалак парляманту зачыніў паседжаньне.

### БАУГАРЫЯ.

У Баўгарыі адбыліся выбары ў парлямант. Блёк урадовых партыяў атрымаў большасьць мандатаў. Рэшта мандатаў дасталася лібэралам, камуністам і народнікам.

## Беларуская Рада.

У № 315 расейскай газэты „Дни“ надрукавана:

„З Коўні, сталіцы Літвы, пераехалі ў Прагу выдатныя прадстаўнікі беларускага нацыянальнага руху на чале з Аляксандрам Цьвікевічам і Пётрам Крычэўскім. Пераезд гэты быў выкліканы ізаляванасьцю Коўні ад вялікшых эўрапэйскіх цэнтраў і няспрыяючымі ўмовамі для нацыянальнай і культурнай працы. Беларусы ў Празе ўтварылі сваю Беларускую Раду. У склад прэзыдыўму ўваходзяць: П. Крычэўскі, Ул. Пракулевіч, В. Захарка і М. Вяршынін, а ў Рэвізыйную Камісію—А. Цьвікевіч, Л. Заяц і У. Сак“.

Беларуская Цантральная Школьная Рада ў Вільні маючы па мэце арганізацыю беларускіх пачатковых і сярэдніх школаў, а також беларускіх вучыцельскіх курсаў, аб чым робяцца захады перад Уладай, гэтым звароччаецца да ўсіх настаўнікаў-беларусаў, як працуючых ў школах так і непрацуючых, каб далі аб сабе весткі, запоўнуўшы ніжэйпаданую анкету.

1) Імя і прозьвішча.
2) Век, або калі радзіўся.
3) Што скончыў.
4) Стаж (колькі гадоў вучыў і ў якой школе).
5) Ці скончыў беларускія курсы.
6) Як прыгатаваны з полёністыкі.
7) Чым цяпер займаецца.
8) Адрэс.

Запоўнуўшы гэткую анкету паводле вышэйпададзенага ўзору Б. Ц. Ш. Р. у Вільні просіць прысылаць яе па адрэсу: Wilno, Wileńska 12—6. Białoruska Centralna Rada Szkolna.

Бел. Цант. Шк. Рада ў Вільні.

## Весткі з вёскі.

**Вёска Максімаўка**, Радашкаўскае г. Вялейск. п.

Да часу нямецкай акупацыі ў нашай вёсцы істнавала расейская школа. Хаця-ж яна і ўтрудняла ўмысловае разьвіцьцё нашых дзяцей, але ўсё-ж такі асьвета па троху пашыралася. Цяпер няма і гэтага; жудасьць бярэ, што трудна знайсьці дзіця да гадаў 15, якое-б умела хаця літары. Пасьля міру палякаў з бальшавікамі мы даведаліся, што маем права адчыняць беларускія школы, бардзей падалі да інспэктара паданьне. Чакаем. Адказу няма. Думаем, пэўна не трапіла па адрэсу, бах—другое. Аж і з другім сталася тое самае. Год прайшоў, дзеці ня вучыліся. На другі год разумнейшыя людзі параілі пісаць ажно 4 такія „паданьні" і каб ў кожным было ня меньш 40 подпісаў бацькоў. Так і зрабілі. Адно напісалі да гмінных рады, другое да інспэктара, трэцяе да старосты і чацьвертае аж да міністра асьветы; на кожным падпісалася ўжо ня 40 бацькоў а можа 140, марак налапілі больш, чым трэба, і ўжо былі пэўны, што школа будзе.

Праходзяць Каляды; вучыцеля няма. Дзеці растуць бандытамі; чужы чалавек увечары на вуліцу ня йдзі. Трашчаць платы, ломяць лаўкі, а іншаму паваропаюць бярвеньні: вядама, няма дзе дзець маладой энэргіі.

Але так сама падцягнуліся і дзеткі пана Кульчынскага. Толькі ўжо п. К. не рабіў так, як мы; ня склікаў сходкаў, ня зьбіраў подпісаў, а проста чыркнуў да інспэктара і ўраз прыехала польская вучыцелька. Запрапанавалі і нам пасылаць сваіх дзяцей, але мы хацелі вучыць пабеларуску і чакалі свайго вучыцеля.

Праўда, знайшлося некалькі нецярплівых, ці як іх назваць, якія паслалі, але прымушаны былі хутка кінуць, бо вучыцелька сама вельмі мала ведала і вучыла толькі танцаваць „кракавячак" і інш. танцы і сьпевы. На трэйці год вучыцельку зьмяніў вучыцель, так сама польскі, абяцаў, калі мы пашлем дзяцей, то будзе ціханька вучыць пабеларуску, але мы зразумелі хітрасьць вучыцеля і зноў давай пісаць паданьні, далучаючы да іх пастанову гміннай рады аб адкрыцьці ў нас беларускай школы і розныя дэклярацыі, але зноў нічога ня вышла. Толькі, нарэшце, заклікалі нас у гміну, і прачытаў пісар ад інспэктара паперу, што згаджаецца перанесьці школу з двара да нас (аб чым ніхто і не прасіў), калі дадзім будынак і ўвесь інвэнтар пад школу. Тут мы зразумелі, што хочуць упхнуць нам польскую школу, адказалі, што згаджаемся, калі школа будзе беларуская. Пісар гэтак пабаяўся пісаць, кажа: неяк будзе палітычна. Ну, а як палітычна, дык і мы збаяліся і кінулі ўжо вадзіцца, а школы няма, і больш 80 дзяцей растуць бяз усякай асьветы. Так ня толькі наша вёска рабіла, але і другім, як Путнікі, Пяцюлі і інш. Вынікі для ўсіх роўныя.

**Чухмель.**

**В. Альхоўка**, Дакудаўскай гміны.

У нашай вёсцы цэлы год ішла барацьба за адкрыцьцё беларускае школы, якая кончылася тым, што пан інспэктар Вайтовіч прыгразіў, каб і мовы ня было аб беларускай школе. Чаго не рабіў п. інспэктар, каб ня даць адчыніць нам школу ня то што ўрадовую, але нават прыватную, а ўрэшце, каб ужо раз на заўсёды скончыць з гэтай справай, забраў школьны будынак і зрабіўся яго поўным гаспадаром. Вось-жа калі ў гэтым годзе стала патрэбным зрабіць рэмонт гэтага будынку, дык Zarząd Szkolny дамагаецца, каб нашая вёска ўзяла гэты рэмонт на сябе. Але на наш сялянскі розум здаецца, што калі пан інспэктар забраў будынак, назваў яго rządowym, а сябе лічыць гаспадаром будынку, дык павінен сам яго й папраўіць. Сяляне-ж ад яго ня маюць цяпер ніякай карысьці: нашай беларускай школы не дазволілі, а польскай мы ня хочам. Выходзіць неяк так, як гэта кажуць у нас людзі: узяць — узяў, але рады ня даў; ідаць завялікі кусок.

**М. С.**

# Допісы.

## Беларусы у Амэрыцы.

(Ад уласнага карэспандэнта).

### Беларусы і украінцы.

25 і 26 кастрычніка ў Філадэльфіі адбыўся II-гі Усеукраінскі Кангрэс Аб'яднаньня Украінскіх Арганізацыяў ў Амэрыцы. Беларусы ў Чыкага атрымалі ад Прэзыдыуму Аб'яднаньня (Л. Левіцкага і Т. Грыцая) запросіны прыехаць на гэты Кангрэс для абгаварэньня бягучых спраў нашае супольнае працы, але дзеля таго, што на 28 кастрычніка назначана было першае выступленьне Дэлегата Рады Б. Н. Р. Язэпа Варонкі на беларускім вечы, ніхто з Выканаўчага Камітэту Беларускага Народнага Таварыства ў Ільлінойс ня мог выехаць на 25 кастрычніка у Філадэльфію (20 гадзін ад Чыкага). Замест гэтага Дэлегат Я. Варонка ад імя Б. Н. Т. і свайго даў у Філадэльфію такую тэлеграму:

„Высокі Кангрэс! Ад імя Беларускага Народнага Таварыства і свайго горача вітаю прадстаўнікоў братняга народу і жадаю Кангрэсу найпасьпяшнейшай працы на вызваленьне украінскіх зямляў з-пад чужацкае няволі. Няхай жыве наша супольная вызвольная барацьба! Слава сястры Украіне".

### На сірот ў Заходняй Беларусі.

У лістападзе ў Чыкага беларусы рыхтуюць ўваднэй з вялікшых заляў спэцыяльны канцэрт-баль на сірот Заходняй Беларусі. На гэтым канцэрце перш раз выступіць, знайходзячыся ў Амэрыцы, артыста-беларус пявец Маскоўскай Опэры Сяргей Бароўскі (брат Прадстаўніка Беларускай Народнай Рэспублікі ў Бэрліне—Андрэя Бароўскага), які будзе пяяць беларускія песьні і рамансы пабеларуску. Апрача таго жонка С. Бароўскага—Вера Бароўская, вядомая балетніца, будзе танцаваць у беларускай нацыянальнай вопратцы беларускія танцы, а украінскі хор ужо практыкуецца пяяць „Адвеку мы спалі". Для арганізацыі свайго хору бракуе тутака нотаў,—асабліва тутэйшыя беларусы ніяк не могуць дапрасіцца прыслаць з Бацькаўшчыны апошняе выданьне„Беларускага Лірніка" і навейшыя ноты для аднаго голаса.

### Беларуская Кніжня ў Чыкаго.

Пры беларускім нацыянальным Камітэце наладжана вялікая беларуская кніжня, якая адчынена для карыстаньня шырокім колам Калёніі.

### Беларус здабывае вышэйшую навуку.

У пачатку школьнага году Я. Чарапук прыняты да Чыкагскага Унівэрсытэту, у якім студ'юе юрыдычныя і дыплёматычныя навукі. Праз 3 гады мяйсцовая беларуская калёнія будзе мець ужо свайго фаховага беларускага амэрыканскага адваката. Па атрыманьню дыплёма адваката гр. Чарапук мае замер яшчэ паехаць у Вашынгтон і праступ'яваць вышэйшы курс дыплёматычных навук. Вялікую ўслугу пэрсанальна гр. Чарапуку аказаў ірляндзец Кэнэды, рэктар Амэрыканскага Каледжа Ігната. Магчыма, што і яшчэ некалькі беларусаў паступіць да Унівэрсытэту.

## Сельска-гаспадарскія парады.

### Калі і як сеяць насеньне яблыкаў і грушаў, каб мець свае прышчэпы.

Сеяць насеньне садовых дрэў можна ў восень і вясной. Восеньская сяўба лічыцца лепшай, бо яна бліжэй падыходзіць да прыроднага расплоду дрэва. У восень сеяць насеньне адразу, як пасьпеюць яблыкі ці грушы на дрэве, але аднальково можна сеяць праз усю восень да марозаў. Семя для пасеву найлепей браць з дзікіх яблыкаў і — грушаў-дзічак, трэба толькі, каб яны былі добра высьпеўшы. Можна для пасеву браць і семя з садовых дрэваў, як напрыклад семя антонаўкі, але лясныя лепей тым, што прышчэпы вырасшыя з дзічак будуць трывалейшымі. Садовыя дрэвы больш далікатныя, а дзеля гэтага і прышчэпы ад іх будуць больш кволыя.

Сеецца семя на лехах, як і капусная расада. Сеяць можна ў раскідку і садзячы ў радочкі. Лепей заўсёды садзіць насеньне ў радочкі, дзеля таго, што ў радочках вальней будзе расьці маленькім дрэўцам і зручней будзе паміж імі палоць траву і рыхліць зямлю. Пакуль сеяць насеньне, трэба за часам прырыхтаваць ляху. Зямлю на ляху трэба перакапаць найменш пядзі на паўтары глыбіні і добра ўгнаіць старым перагарэўшым гноем. Гной трэба добра перамяшаць з зямлёй. Трэба старацца рабіць ляху дзе-небудзь у зацішку ад сьцюдзёнага ветру і на прыслоне. Ляха робіцца паўтара аршыны шырынёй і даўжынёй, на колькі можна. На лясе у $1^1/_2$ аршына шырынёй і адзін сажань даўжынёй можа зьмясьціцца ў першы год каля паўтысячы штук сеянак. Калі ляха будзе прырыхтавана, трэба йшчэ раз яе зьверху разбаранаваць граблямі, каб ня было грубых камоў і каменьня. Пасьля гэтага папярок ляхі робяцца чым-небудзь равочкі, на пядзю адзін ад другога. На лёгкіх грунтах равочкі можна рабіць глыбейшыя так на адзін вяршок; на цяжкіх грунтах равочкі павінны быць мялейшыя. У гэтыя равочкі кладзецца насеньне на вяршок, а то й бліжэй зерня ад зерня. Паверх насеньня равочкі засыпаюцца сытнай пухлянай зямлёй і прыціскаюць зьверху дошочкай (на глінах гэтага рабіць ня трэба). Каб зямля на лясе не высыхала, ляху прыкрываюць старым дробным гноем, а на зіму ўкрываюць лехі яловымі лапкамі, а калі іх дастаць нескуль, дык саломаю. Костачкі сьліў і вішняў трэба садзіць як раней, і лепей разам з мясам.

Каб насеньне ўзыйшло яно павінна добра перамерзнуць на марозе. Вось дзеля гэтага, калі хочуць сеяць насеньне садовых дрэўцаў вясной, дык трэба ў восень узяць якую-небудзь скрынку і насыпаць туды чыстага сухога пяску і зьмешаваюць з пяском насеньнё, на адну часьць насеньня беручы тры часьці пяску. Скрынку з запескаваным насеньнем на зіму ставяць на дварэ, на мароз, аж да вясны. Вясной, як толькі адойдзець зямля, насеньне з пяском высяваецца на ляху, гэткім парадкам, як было раней. Ляха добра паліваецца вадой і ўкрываецца гноем ці саломай, пакуль семя не пачне прарастаць; тады трэба ляху раскрыць. Калі ўсходы выйдуць занадта густыя, іх трэба прарваць, каб дрэўца ад дрэўца расло на паўпядзі. Дагляд за маладымі сеянкамі ў працягу лета будзе складацца з палоньня травы і паліваньня на ноч ляху вадой.

**Я. П.**

## Юрыдычныя парады.

Юрацішкі. **К. Светлавастокаву.** Калі справа была да 1 сакавіка г.г., то падыходзіць пад амнэстыю.

Казенны адвакат можа быць дадзены. Раім устрымацца ад яго. Адказ дадзім.





*Пішыце да нас аб жыцьці-быцьці вёскі, аб сваіх ворагах і прыяцелях. Хай кожны падпішчык „Змаганьня" будзе і яго супрацоўнікам.*

Рэдактар-Выдавец **М. Шыла.**

Друкарня **Левін і Сын.** Вільня. Нямецкая 22.